КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Мост

*Байка*

Зусім трухлявы мост стары –
Правальваецца проста.
Таму надумалі звяры
Разжыцца новым мостам.
А каб з'явіўся ўсё-ткі ён
Над бурнаю ракою,
Патрэбна вельмі шмат бярвён.
Гадалі талакою,
Ганцом пасланьць каго з звяроў
У міністэрства варта,
Каб глупства ён не напароў
І ўдала легла карта.
У рэшце рэшт рашуў натоўп
Пасладзь "наверх" Мядзведзя,
Бо, без сумнення, будзе толк,
Як ён туды паедзе.
Мядзведзь жа дужы і мажны,
На выгляд самавіты…
Дык "зверху", верылі яны,
Нам выдзеляць ліміты,
Начальства, думала гурма,
Паперы ўсе падпіша.
Ды спадзяваліся дарма –
Ні з чым вярнуўся Міша.
Запанаваў у лесе сум…
З'явілася ідэя,
Што трэба выправіць Лісу,
І, хітрая, сумее
Бярвенне раздабыць на мост,
Бо зможа да начальства
Знайсці дарогу не наўпрост,
А трохі пакручаста.
"Наверх" паехала яна,
Была чатыры тыдні,
Аднак жа нават бервяна
Не выдзелілі злыдні.
Надзея конча адышла –
Нямашака і следу.
І тут пачулі ад Асла:
– Давайце я паеду!
Аж смешна стала ўсёй гурбе:
– Ды ты ж, Асёл, – тупіца!
Не ўдасца, ёлупню, табе
Чагосьці там дабіцца.
Сказаў з іроніяй Мядзведзь:
– Ды ты ж на клёк убогі!
Але як хочацца, дык едзь,
Шчаслівае дарогі!
Праз дзень дзівіліся, калі,
Нібы акулы ў згаі,
Бярвёны раптам паплылі –
Няма канца і краю!
Плывуць і тыдзень, і другі –
На рэчцы ўжо запруды.
Бярвён аж на беразі
Павыпаўзалі ўсюды.
У рэшце рэшт прыбыў і сам
Асёл – вясёлы дужа.
Лісліва мовіла Ліса:
– Ты проста майстар, дружа,
Шукаць абходныя шляхі
І перамовы весці.
Цяпер патрапіш у "вярхі",
Начальствам будзеш дзесьці…
Асёл на ўсё праліў святло:
– Якое там майстэрства?
На самай справе так было:
Заходжу ў міністэрства,
А там сядзяць Аслы адны –
Маёй крыві і масці.
Дык паспрыялі мне яны
У тым, каб мост пракласці.
Мы развязалі ўсе вузлы,
Адзін застаўся толькі,
Бо міністэрскія Аслы,
На жаль, не знаюць толкам,
Мець мы хацелі б мост які –
Ці доўгі, ці кароткі,
Ён быць павінны ўздоўж ракі
Ці ўпоперак усё-ткі…

***

Калі адны аслы вакол,
Калі аслы – начальства,
Усім кажы, што й ты асёл, –
Выгоды мецьмеш часта.

### Сучасны сябар

Характэрная прыкмета
Сумятлівых нашых дзён:
Сябруку, як трэба гэта,
Дапаможа маладзён;
І ў бядзе, калі хрэнова,
Не пакіне сябра ён:
Здыме ўсё абавязкова
На мабільны тэлефон.

### Народжаны поўзаць…

Бырла алкаш
Нацурболіў у рот,
Дык не пусцілі
Яго ў самалёт.
Колісь пра гэта
Сказалі прыгожа:
Поўзаць народжаны
Лётаць не можа…

### Не аддам

Так заявіў Абрам
Усім сваім сябрам:
– Калі сказаў "Не браў",
Дык, значыць, не аддам…

### Эпідэмія

Эпідэмію пачні –
На рабоце пазяхні…

### Не знае, таму не раўнуе

Гэта зусім не навіна,
Гэта жыццёвы закон:
Калі раўнуе мужчына,
Дык, значыць, кахае ён.
Калі ж прыліп, як кароста,
А рэўнасці – круглы нуль,
Дык гэткі мужчына проста
Нічога не знае пакуль…

ПАЗІЦЫЯ

# Мова – вось наша галоўная зброя

У апошнія месяцы не раз на дзяржаўным узроўні закранался тэма ваенна-патрыятычнага выхавання насельніцтва. Я звярнуў увагу, што часта ўвага акцэнтавалася на ўсеагульным узбраенні. «*Я не жартам казаў*, – падкрэсліў падчас наведвання 5 кастрычніка мінулага года аднаго з ваенных палігонаў Брэсцкай вобласці Аляксандр Лукашэнка, – *што калі ў нас будзе дастатковая стралковай зброі – аўтаматы, пісталеты, кулямёты і боепрыпасы да іх, – не дай бог вайна, мы раздадзім у кожную сям'ю. І мы будзем абараняць сваю тэрыторыю ўсе разам... Старыя і нават жанчыны: 7 мільёнаў чалавек – 7 мільёнаў атрымаюць зброю, каб яны маглі абараняцца*».

Праз некаторы час на сустрэчы з актывістамі БРСМ прэзідэнт Беларусі спытаў: «*...а калі заўтра са стрэльбай прыйдзецца ўстаць на абарону сваёй Радзімы? Я, як галоўнакамандуючы, абыдуся толькі той структурай і сістэмай, якая створана ва Узброеных сілах і міліцыі? Не. Нам прыйдзецца раздаць кожнаму – перш за ўсё мужыку, ды і дзяўчатам – зброю, каб абараніць, добра, не Радзіму – сябе і сваю сям'ю, свая дзяцей*».

Звернем увагу на тое, што пры гэтым кіраўніком краіны была зроблена спасылка на вынікі сацыялагічнага даследавання, праведзенага ў маі–чэрвені 2018 года ў Беларусі кампаніяй MIA Research, падчас якога 85,6 працэнта рэспандэнтаў выказаліся накont таго, што ў выпадку вайны гатовы змагацца за сваю краіну.

Давайце ўдакладнім: адкуль, чаму і калі з'явілася пагроза страты Беларуссю незалежнасці? Хто збіраецца нас захапіць? Пагроза, як правіла, можа сыходзіць у першую чаргу ад кагосьці з суседзяў. На сустрэчы з расійскімі журналістамі 14 снежня Аляксандр Лукашэнка удакладніў, што пад выглядам паглыблення «інтэграцыі» Масква жадае інкарпараваць Беларусь у склад Расіі. Каб гэтага не адбылося, вядома ж, усім нам, магчыма, трэба будзе стаць плячо ў плячо на абарону Айчыны. І я з гэтым згодны. Але давайце зойдзем крыху з іншага боку.

Чаму прэзідэнт краіны бачыць толькі традыцыйны варыянт выйсця ў змаганні за незалежнасць краіны? А можа, у беларусаў ёсць больш моцная зброя, чым куля і аўтамат? Так, я лічу, што такая зброя ёсць. Наша зброя – наша мова і моц духу! Беларусы – мірныя людзі. Паводле вынікаў таго ж сацыялагічнага даследавання, 86,1 працэнта рэспандэнтаў ганарацца Беларуссю, лічаць беларускую мову важнейшай нацыянальнай каштоўнасцю і выступаюць з патрабаваннем яе захавання.

МОВА – вось наша галоўная зброя. І напярэдадзе агромністая праца па вяртанні нам нашай галоўнай каштоўнасці і моцы – МОВЫ – і ўсталяванні яе ў краіне на належным узроўні. Як вяртанне, дарэчы, і Крыжа Еўфрасінні Полацкай.

**Васіль РУСОВІЧ, дацэнт, сацыёлаг.**

ЖИТЕЙСКИЕ СТРАДАНИЯ

# Нервотрепка, кредитная кабала – и все напрасно!

Из уст многих чиновников часто слышишь: теперь и на селе можно успешно вести бизнес. Но мой опыт, к сожалению, говорит об обратном. Решила я построить павильон по продаже промышленных товаров. Обратилась в райисполком с заявлением. Через некоторое время мне позвонили и сказали, что здание магазина может быть возведено только из красного кирпича, но ни в коем случае не из павильонных конструкций. Мол, если дать согласие на мое предложение, то будет испорчен архитектурный облик деревни.

Представляете: не один десяток павильонов не портит облик райцентра, а тут… Мотивировка курам на смех!

После этого решила я просить земельный участок. Сказали, что приобрести можно только через аукцион. Но вот прослышала, что по соседству с нашей усадьбой частник решил избавиться и от земли, и от построенного продовольственного магазина. Огорчилась, когда узнала, что он загнул такую цену, что мне никак не потянуть. Как будто на участке нашли полезные ископаемые, а внутри здания все стены в золоте! Я думала, что цена всего, в том числе земли, сооружений, у нас определяется кадастровыми коэффициентами, строительными расценками, а оказывается, владелец может загибать любую цену…

Но мои неприятности только начинались. Вся процедура с аукционом была покрыта тайной. Никакого предварительного обсуждения. «Все узнаете тогда, когда получите документы на руки», – услышала я. Раскрыв бумаги, за которые заплатила более тысячи долларов (в эквиваленте), я оцепенела. Оказывается, канализацию и водоснабжение надо вести метров за триста пятьдесят, пересекая проезжую часть улицы. Подсчитали: стоимость объекта возрастает в разы.

Еще один «подарочек» – поскольку участок находится в водоохранной зоне, то требуется специальная экспертиза. А стоимость ее проведения – примерно тысяча долларов. К тому же существует какой-то градостроительный план, в нем столько ограничений, что, как мне сказали сведущие люди, из-за них никто и никогда не примет объект в эксплуатацию.

Что в результате? Не одного дня нервотрепка, кредитная кабала – и все напрасно! А с чиновников, втянувших меня в эту бессмыслицу, – как с гуся вода.

Отнесла в райисполком новое заявление с просьбой расторгнуть сделку по соглашению сторон. Отказали: мол, не весомые мои аргументы. Получается, что у человека (читай – инвестора) нет никаких прав. Ловушка захлопнулась. Я наивно считала, что чиновники чтят интересы граждан, а они об этом и не думают.

Моей истории уже несколько месяцев. Сколько здоровья она отняла! Я не говорю уже про 3000 долларов, которые напрасно потрачены.

Хотелось бы прочитать комментарии к моему письму читателей «Народной Воли». Буду рада получить дельные советы. Стоит ли мне обращаться в суд? Есть ли шансы выиграть и вернуть свои деньги?

**Инна Ивановна БАГАЕВА. д.Видибор Столинского района.**

АД ДУШЫ

## І вам – моцнага здароўя!

Хачу праз газету "Народная Воля" выказаць словы падзякі ўрачам паліклінікі №20 г.Мінска Кацярыне Яўгенаўне Гамановіч, яе памочніцы медсястры Любові Васільеўне Казабцовай, а таксама тэрапеўту Таццяне Васільеўне Сладковай за добрасумленнае выкананне клятвы Гіпакрата (яны заўсёды выслухоўваюць уважліва чалавека і дадуць станоўчую параду) і пажадаць ім самім моцнага здароўя!

**Васіль Андрэевіч РАДЗЮК, пацыент паліклінкі №20 г.Мінска.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК.

### Пасля рамонту засталася плітка

*Няправільна падлічылі неабходную колькасць пліткі, калі рабілі рамонт на кухні, таму адна ўпакоўка засталася. Яна нам ужо не спатрэбіцца, а выкідваць шкада. Ці можна вярнуць тавар у магазін?*

**Вікторыя ЗЫЛЬ, г.Рэчыца.**

– Калі захаваўся чэк, а тавар знаходзіцца ва ўпакоўцы, то можаце яго вярнуць у магазін і атрымаць грошы.

### Смярдзіць куртка

*Набыла куртку з заменніка скуры. Падчас пакупкі прэтэнзій да тавару не было, а вось дома адчула даволі непрыемны пах ад курткі. Ці можна яе вярнуць, бо не вельмі хочацца насіць такую смярдзючую рэч?*

**Валянціна ПЕТРАШЭВІЧ, г.Маладзечна.**

– На працягу 7 дзён з дня пакупкі можаце заявіць прэтэнзію з патрабаваннем замены тавару альбо вяртання грошай.

### Не спадабаўся апарат па вымярэнні ціску

*Ці можна вярнуць прадаўцу апарат для вымярэння ціску, калі мяне не задавальняе якасць яго работы?*

**Таццяна ПІНЧУК, Гомель.**

– Спачатку, каб вызначыць якасць апарата, трэба правесці экспертызу. Калі эксперты знойдуць вытворчыя недахопы, то тавар можна будзе вярнуць у магазін.

### Вярнуць гадзіннік

*Купіў сыну на дзень нараджэння падарунак – гадзіннік на руку. Але ён сыну не спадабаўся, ён хацеў зусім іншы. Ці можна вярнуць гадзіннік назад, калі ён абсалютна новы?*

**Сяргей ЖУКАВЕЦ, г.Вілейка.**

– Калі маеце чэк, то, безумоўна, такі тавар можна вярнуць у магазін і атрымаць за яго грошы.

### Праверыць тавар

*Патлумачце, калі ласка, у чым розніца паміж праверкай якасці і экспертызай.*

**Андрэй КУДРЫЦКІ, г.Барысаў.**

– Экспертыза якраз і праводзіцца для таго, каб пацвердзіць якасць тавару.

### Набыла няякасную кофту

*Купіла кофту, праз тыдзень выпрашыла яе памыць. Пасля пральнай машыны гэтую кофту было не пазнаць – змяніла колер і нават памер стаў меншы. Прадавец адмаўляецца вяртаць грошы: маўляў, я магла сама сапсаваць рэч. Што рабіць у такой сітуацыі?*

**Вольга САВІЦКАЯ, Гродна.**

– Звярніцеся да экспертаў, якія зробяць заключэнне.

### Калі набылі тавар на распродажы...

*Ці законнае папярэджанне прадаўцоў, што тавар, які набываецца на распродажы, нельга затым вярнуць, нават калі ён будзе неналежнай якасці?*

**Аляксандр ЗІНІН, Мінск.**

– Тавар, які рэалізоўваўся на распродажы, і насамрэч не вяртаецца ў магазін.

### Згарэў новы прас

*Набыў у магазіне прас, а ён згарэў ужо на другі дзень працы. Інструкцыя да тэхнікі толькі на англійскай мове. Прадавец сказаў, што ўсе прэтэнзіі да вытворцы. Што мне зараз рабіць?*

**Васіль ГАРБУНОЎ, г.Чэрвень.**

– Напішыце прадаўцу пісьмовую прэтэнзію. Ёсць пастанова Савета міністраў, згодна з якой інструкцыі на ўсе імпартныя тавары павінны быць перакладзены на даступную мову. У адваротным выпадку за якасць тавару адказвае прадавец.

### «Забыліся» пра паліто

*Ці павінны работнікі хімчысткі несці адказнасць, калі маё паліто не вярнулі ў тэрмін? Ці прадугледжана за гэта нейкая кампенсацыя?*

**Галіна ШЭШКА, г.Ліда.**

– Так, кампенсацыя прадугледжана. Хімчыстка нясе адказнасць за парушэнне тэрмінаў выканання абавязкаў па дамове.

РЕЗОНАНС

# Глумиться над памятью дяди, ставшего жертвой сталинизма, я не позволю

В газете «Народная Воля» неоднократно поднималась тема Куропат, хотела и я высказаться, но как-то не находила времени, все откладывала. Прочитав же статью Светланы Калинкиной «Поглумились над живыми и мертвыми», решила немедленно сесть за компьютер.

Несколько месяцев назад посетила Куропаты. Не одна, а со своей приятельницей. Обратили внимание на комплекс построек увеселительного заведения «Поедем поедим». Пообщались с протестующими, которые мужественно и стойко несут вахту, несмотря на угрозы, штрафы и аресты. Все были под полотнищами *бел-чырвона-белага сцяга* – родного символа Беларуси. Поставили и мы свои подписи под петицией о сносе этого увеселительного заведения с земли, окропленной кровью жертв сталинских репрессий.

Статья Светланы Калинкиной очень актуальна. Глумиться над памятью этих жертв недопустимо, даже преступно. Каждый человек должен с уважением относиться к такому скорбному месту, даже если его род подобные репрессии обошли стороной. Ведь мы прежде всего люди, наделенные сердцем и памятью.

Почему люди, приезжающие в ресторан, готовы устраивать пляски на земле, пропитанной горем и кровью? ПОЧЕМУ?!

Я не могу оставаться равнодушной к месту, где покоится столько безвинно убитых людей. Да и кости моего дяди, «польского шпиона», покоятся здесь, в Куропатах.

О своем дяде Александре Александровиче Миллере расскажу подробнее. 1937 год. Из Кремля приходит очередная директива-разнарядка о выявлении «польских




шпионов». А если их не существует, значит, НКВД следует поработать в этом направлении – выявить любым путем нужное количество «польских шпионов», потому что нужна бесплатная рабочая сила на сибирские лесоповалы, Колыму и т.д. Удивительно то, что «польских шпионов» в нужном количестве находили даже в сельской местности. Создавалось впечатление, что деревни по всей Беларуси просто наводнены «польскими шпионами». Родственники моего отца жили в местечке Шатилки, что рядом с нынешним Светлогорском. Мой дядя Александр только успел жениться. Ему было чуть больше 22 лет. Родился сынишка на радость молодой семьи. Но советской власти виднее, как распорядиться их судьбой. Пошли аресты по всей округе – заданный план был выполнен с лихвой. «Польских шпионов» оказалось много не только в Шатилках, но и в глухих деревнях, где еще пользовались лампой-керосинкой. Всех их свозили в Минск для подписания «признания», затем эшелоном отправляли на сибирские лесоповалы.

На допрос мой дядя был вызван вместе с парнем из ближней деревушки. Поскольку он добровольно не захотел подписать «признание», его стали бить. Сокамерник, присутствующий на этом допросе, видел эти страшные истязания и... закрывал руками глаза. Тогда уже были по лицу его, чтобы смотрел на пытки. Как ни пытался НКВДист-палач заставить Александра подписать «признание», так и не смог. Мой дядя был непреклонен! Тогда палач посадил его на стул со встроенным сверлом, прокрутил разок, и... тело обмякло. Его выбросили в коридор, и допрос продолжился. Сокамерник тут же подписал «признание» в содеянном преступлении». Паренька можно было понять. Он такого же возраста, как и Александр, только-только женился, совсем не подозревая, что он «польский шпион», а это наказуемо – 25 лет освоения сибирских лесоповалов.

По истечении 23 лет ему дали разрешение на вольное поселение. Приехала жена. Остальные два года пробыли вместе. Вернулись на свою родную Гомельщину. Купили вблизи реки Березина маленький старенький домик, который спустя какое-то время попал под снос. В списках на получение квартир увидел фамилию Миллер, которая навеяла те страшные воспоминания о пытках в подвалах НКВД. Он пришел по адресу к моей тетушке Оле, жене покойного брата моего отца. Долго расспрашивал и, убедившись, что не ошибся, подробно рассказал эту страшную историю. И только так, благодаря стечению обстоятельств, через 25 лет мы узнали правду. К великому сожалению, я не знаю ни имени, ни фамилии этого человека, который помог раскрыть все подробности допросов, жестоких пыток и смерти моего дяди Александра. В любом случае ему искренне спасибо и низкий поклон за его смелость рассказать эту страшную правду 1937 года. Вот так НКВДисты-палачи выполняли указания Кремля.

Не один год провел в архивах кандидат исторических наук Игорь Кузнецов. Он подсчитал: «*На декабрь 1938 года были арестованы* (в Беларуси. – **Авт.**) *21.407 человек. Из них арестовано 9196 поляков, 10.120 белорусов, 1059 евреев, 383 русских, 181 украинец, 105 немцев, 122 латыша, 133 литовца и 110 человек «прочих национальностей». Характерно то, что в БССР было проведено несколько «операций» НКВД. Кроме так названной выше операции были еще две: немецкая и латвийская. По первой из них были арестованы 563 человека (из них немцев – 428), по второй – 1459 (из них латышей – 1089 человек)*».

Я считаю, что каждый здравомыслящий человек, проживающий на территории Беларуси, скажет: «Память о Куропатах должна жить вечно! Чтобы строить светлое будущее, нельзя забывать о прошлом. Нельзя устраивать пляски на земле, пропитанной кровью и горем наших предков. А поэтому следует убрать это увеселительное заведение – ресторан «Поедем поедим». Здания, построенные в нескольких десятках метров от места расстрела ни в чем не повинных людей, можно использовать с приданием им функций мемориального характера.

**Тамара Станиславовна МИЛЛЕР.**

*Минск.*

ЗЕМЛЯКИ

# Уроженка Беларуси ворочает миллиардами в Америке

*Не так давно Франция выдала России экс-министра финансов Подмосковья Алексея Кузнецова. Экс-чиновника вместе с женой, скандально известной Жанной Буллок, обвиняют в куче масштабных афер.*
*Между прочим, Жанна Буллок, которая сейчас находится в США, – уроженка Беларуси. Она родилась в Кобрине, а выросла в Пинске. «Народная Воля» присмотрелась к ее биографии.*

Жанна Булах выросла в белорусском Пинске, а родилась 12 мая 1967 года в Кобрине Брестской области. В 1991-м она эмигрировала в США. Жанне тогда было 24 года.

Как писала в свое время New York Times, Жанна закончила Ленинградский университет и преподавала русскую литературу в старших классах средней школы. Ее первым мужем был офицер, от которого она родила дочь Зою, но брак *«оказался неудачным, хотя муж помог ей перебраться в Нью-Йорк»*.

По словам репортера Times, Жанна *«работала нянькой на Кингс-хайвей в семье ортодоксального еврея с семью детьми и женой, которая лежала в психиатрической больнице»*.



В Америке Жанна вышла замуж за американского программиста Теда Кречмера, получила Green Card и возможность вызвать в Америку маму и дочь. Они воссоединились в 1993 году. Решив навсегда остаться в США, Жанна Булах переделала на американский лад свои имя и фамилию – по документам она стала Janna Bullock.

Второй брак Жанны длился всего три года. Жанна обвинила мужа в домашнем насилии и зафиксировала несколько вызовов полиции на дом. Доводы были приняты судом во внимание.

Жанна устроилась на работу в адвокатское бюро **Эммануила Зельцера**, еврейского эмигранта из Молдавии, замешанного в нескольких громких скандалах с представлением интересов русских на Западе. В частности, его имя не сходило со страниц прессы в связи с разделом наследства Бадри Патаркацишвили, из-за которого Зельцер даже угодил в следственный изолятор белорусского КГБ в Минске. Как упоминалось в одной из публикаций, однажды Зельцер направил Буллок в аэропорт, чтобы встретить там Кузнецова. Помощница Зельцера и вице-президент «Инкомбанка» стали любовниками, а затем мужем и женой.



Союз с банкиром поднял рейтинг Жанны в американском обществе. Помимо денег он дал ей право войти в нью-йоркскую богему.

*«Женщина из белорусской глуши оказалась в попечительском фонде Соломона Гугенхайма, державшем в руках знаменитый музей современного искусства. Тогда же на одной из тусовок произошло ее знакомство с летописцем Кори Хеем,* – пишет западная пресса. – *В бизнесе первым шагом Булах стала регистрация компании Avalon Capital».*

*«Однако с самого начала отношения Булах и Кузнецова не ограничивались романтической составляющей,* – писала российская пресса. – *Это был производственно-деловой роман. Для Булах Кузнецов стал шансом выбраться из иммигрантской нищеты и неустроенности, Булах для Кузнецова – инсайдером в конторе Зельцера и доверенным агентом, постоянно проживавшим в США. В 1994 году Булах зарегистрировала и возглавила компанию Avalon Capital. О том, чей в действительности это был бизнес, говорит тот факт, что для оплаты услуг по оформлению необходимых документов использовалась кредитная карточка Кузнецова.*

*Впоследствии была установлена причастность Булах и к другим офшорам, через которые перекачивались деньги на Запад. Тогда же была опубликована информация о том, что Булах использовала корпоративную золотую карту «Инкомбанка» (которая ей была не положена по статусу) для крупных личных покупок – в основном одежды и женского белья престижных марок».*

Американский пиарщик Кори Хэй, с которым подружилась Жанна, познакомил ее с авторитетными галеристами. Так Буллок стала еще коллекционером и меценатом.

Как установили следователи, Жанна Буллок, пользуясь связями и положением своего мужа Алексея Кузнецова, экс-министра финансов Московской области, проворачивала мошеннические операции, также владела крупнейшей девелоперской фирмой в Подмосковье, выводя все похищенные деньги за рубеж, покупая дорогую недвижимость по всей Европе и Америке, предметы искусства и антиквариат.

Против Кузнецова и Буллок было возбуждено несколько дел о мошенничестве.

Кстати, Алексея Кузнецова называют финансистом от бога. В конце 1980-х годов он заявился на собеседование к управляющему «Инкомбанка» в обычных кедах. Через несколько лет он стал его ближайшим подручным и вполне состоятельным человеком не только по российским меркам.

В 2010 году пресса опубликовала подробности роскошной свадьбы Зои Буллок и Тоусона Реммела, сына владельца нью-йоркской банковской группы Pryor Cashman Хармонда Реммела. Сообщалось, что на свадьбу в подмосковной усадьбе Архангельское в 2008 году было потрачено около 5 миллионов долларов.

В Европе и Америке у Кузнецова и Буллок есть жилая недвижимость, два отеля, десяток люксовых автомобилей, моторная яхта и гора антиквариата.

Буллок называют самой известной русской светской львицей в Нью-Йорке. Она владеет коллекцией произведений искусства, в которую входят работы Энди Уорхола и Фрэнсиса Бэкона. Буллок организовывала арт-выставки в Москве, Венеции и Майами.

Известно также, что Буллок регулярно ездит кататься на лыжах в Альпы, и ей принадлежит пятизвездочный отель в Куршевеле.

Пару лет назад Алексей Кузнецов и Жанна Буллок попали на страницы светской хроники американских таблоидов. Супруги, подозреваемые в мошенничестве на миллиард долларов, оказались на грани развода. Их брак американские журналисты характеризовали как «странный»: Буллок живет в Нью-Йорке, ведет светский образ жизни и старается не упоминать имя мужа, а Кузнецов находится где-то в Европе и встречается с женой несколько раз в год.

Недавно в прессе снова прошла информация о том, что союз Буллок и Кузнецова распался.

*«Очередным избранником Жанны Булах стал американский искусствовед Рэндал Брокет,* – писали журналисты. – *Их вместе видели в Венеции».*

**Алина ВЕТРОВА.**

СОСЕДИ

# Как Украина готовится к президентским выборам

*В соседней стране будут выбирать президента 31 марта 2019 года.*

**Почему именно эта дата?**

Выборы президента Украины проводят в последнее воскресенье марта пятого года полномочий главы государства. Таким образом, на этот раз голосование должно состояться именно 31 марта 2019 года.

До 4 февраля 2019 года ЦИК будет принимать документы от претендентов на пост президента, а следующие пять дней – до 9 февраля 2019 года – состоится регистрация кандидатов. После этого объявят окончательный и официальный список претендентов на пост главы государства.

**Будет ли второй тур и почему его вообще назначают?**

Второй тур назначают в том случае, если ни один из кандидатов не наберет абсолютного большинства голосов (50% + один голос) после первого этапа голосования. Пока результаты социологических опросов показывают, что среди лидеров президентской гонки нет явного фаворита, который сможет набрать больше половины голосов. В таком случае второй тур состоится 21 апреля 2019 года.

За время независимости Украины только Леонид Кравчук в 1991 году и Петр Порошенко в 2014-м победили в первом туре.

**Можно ли снять свою кандидатуру с выборов?**

Да, но не позднее, чем за 23 дня до выборов, обратившись в ЦИК. На ближайших выборах это будет 8 марта 2019 года.

Что нужно, чтобы выдвинуть свою кандидатуру на выборы президента Украины?

Кандидат должен быть гражданином Украины, который достиг 35-летнего возраста, владеть государственным языком и проживать в Украине в течение десяти последних лет до дня выборов.

Пойти на выборы можно через выдвижение политической партией или путем самовыдвижения. Также потенциальный президент Украины должен предоставить декларацию о доходах за год, предшествующий году начала выборов. Документ проверит Национальное агентство по предотвращению коррупции и впоследствии обнародует результаты проверки.

**Кажется, кандидаты еще вносят деньги в ЦИК. Какой должна быть сумма и какова дальнейшая судьба этих средств?**

Да, в ЦИК нужно внести денежный залог в размере 2,5 млн гривен.

Денежный залог возвращается субъекту его внесения, то есть партии или кандидату на пост президента, в двух случаях: либо в случае победы на выборах, либо в случае выхода во второй тур.

Всем остальным участникам выборов деньги не возвращаются, они идут в государственный бюджет.

**Уже известно, сколько кандидатов будет на президентских выборах в 2019 году?**

Пока официально выдвинул свою кандидатуру только экс-министр экологии и природных ресурсов Игорь Шевченко.

Ранее о своих президентских амбициях заявляли:

1.Александр Онищенко
2.Надежда Савченко
3.Роман Безсмертный
4.Юлия Тимошенко
5.Валентин Наливайченко
5.Юрий Деревянко
7.Инна Богословская
8.Роман Насиров
9.Сергей Тарута
10.Анатолий Гриценко
11.Мишель Терещенко
12.Андрей Садовый
13.Руслан Кошулинский
14.Дмитрий Добродомов
15.Илья Кива
16.Александр Шевченко
17.Ольга Богомолец
18.Александр Мороз
19.Александр Вилкул
20.Владимир Зеленский.

**Почему так много претендентов?**

Часть претендентов – это представители конкретных партий, которые заранее мобилизуют электорат перед парламентскими выборами 27 октября 2019 года.

Другая часть – это так называемые технические кандидаты. Их используют потенциальные лидеры предвыборной гонки для борьбы со своими ближайшими оппонентами.

Основным оружием технических кандидатов является агитация против одного из лидеров. Иногда бывает так, что с приближением самих выборов эти кандидаты резко передумывают участвовать. В частности, так произошло на выборах в 2014 году, когда Наталья Королевская, Олег Царев, Зорян Шкиряк, Петр Симоненко, Александр Клименко и Василий Цушко заявили о снятии своих кандидатур.

Правда, в итоге ЦИК сняла только Королевскую и Царева, остальные четыре кандидата объявили о своем намерении слишком поздно, поэтому в соответствии с положениями закона о выборах их фамилии присутствовали в бюллетенях.

**Что уже известно о предвыборных программах?**

Лучше дождаться официального выдвижения и публикации предвыборной программы каждого отдельного кандидата. Хотя уже с уверенностью можно сказать, что в большинстве программ будут экономические, языковые, церковные вопросы, а также стратегии по аннексированному Крыму и прекращению боевых действий на Донбассе.

**Александр ИВАНЧЕСКУЛ.**

(«Украинская правда».)

ТАМ, У НИХ...

## Трамп не может найти нового главу Пентагона

*Президент США Дональд Трамп столкнулся с трудностями в поисках нового главы Пентагона – возглавить Минобороны США после отставки Джеймса Мэттиса отказались уже два человека.*

Об этом сообщило издание Politico.

Первый отказ Трамп получил от генерала Джека Кина, второй – от бывшего сенатора-республиканца из Аризоны Джона Кила. Кин, который часто консультирует Трампа, отказывался от этой позиции ранее, во время действия переходной администрации 2016 года.

Мэттис принял решение уйти с поста министра обороны США во второй половине декабря из-за разногласий с взглядами Трампа, в частности, в отношении Сирии. Сейчас обязанности главы Пентагона выполняет заместитель Мэттиса Патрик Шанахан.

## Власти Франции объявили план подавления несанкционированных протестов

*Премьер-министр Франции Эдуард Филипп объявил о намерении наказать людей, проводящих несанкционированные протесты.*

Об этом пишет Би-Би-Си.

Его правительство хочет разработать новое законодательство против нарушителей среди протестующих и запретить ношение масок на демонстрациях.

По его словам, 80 тысяч представителей сил безопасности будут развернуты к следующей ожидаемой волне протестов.

Протестующие разгромили ворота правительственного учреждения в эти выходные.

Известным нарушителям порядка будут запрещать участвовать в демонстрациях, так же как известным футбольным хулиганам было запрещено ходить на стадионы, отметил он.

ОТДЫХ

# 5 бюджетных зимних курортов,

## которые станут отличной заменой дорогим Куршевелю и Сочи

Под горнолыжным отдыхом зачастую подразумевается отдых дорогой. И действительно, чтобы покорять заснеженные склоны, нужно потратиться не только на перелет, трансфер, страховку, жилье где-нибудь у подножья гор, но и на экипировку, подъемники, а иногда и на инструктора. Более того, самые популярные и проверенные курорты с каждым сезоном все дорожают. Но решение этой проблемы есть.

Не одними Альпами богата земля. **AdMe.ru** нашел 10 альтернативных горнолыжных баз, которые еще не столь раскручены и более бюджетны за счет стоимости проезда, проживания и еды. При этом их трассы ничуть не хуже, а пейзажи так же поражают воображение.

**1. Гудаури, Грузия**

Гудаури – это современный горнолыжный курорт, визитная карточка зимнего туризма Грузии. Он расположен на южном склоне Большого Кавказского хребта и подходит для спортсменов любого уровня. Комплекс встретит мягким климатом, прекрасной грузинской кухней и бюджетными предложениями по жилью.

**Верхняя точка катания:** 3006 метров.

**Как добраться:** из Тбилиси (120 км по Военно-Грузинской дороге) либо из Владикавказа (80 км с другого конца Военно-Грузинской дороги).

**Ски-пасс:** 7 дней – 117 долларов.

***Ски-пасс** – это магнитная карточка, которая позволяет пройти через турникет на территорию лыжной станции, где можно пользоваться всеми подъемниками и спускаться неограниченное количество раз по любым трассам. Ски-пасс – отличная возможность удешевить ваше пребывание на горнолыжном курорте. Ведь в суммарном количестве цена одноразовых билетиков окажется намного выше, чем абонемента.*

**2. SkyResort, Монголия**

Несмотря на то что SkyResort – это первый горнолыжный курорт в Монголии, он полностью отвечает международным стандартам. Его дизайн разрабатывала французская компания MAS Limited, а систему оснежения – итальянская Techno Alpin. Правда, внесем уточнение: ехать лишь ради горнолыжки туда не стоит, а вот совместить поездку с осмотром столицы и окрестностей столь экзотичной страны – идеально.



**Верхняя точка катания:** 1500 метров.

**Как добраться:** из Улан-Батора (13 км).

**Ски-пасс:** 1 день – 24 доллара.

**3. Сьерра-Невада, Испания**

Сьерра-Невада – самый южный горнолыжный курорт Европы, но, признаемся, далеко не самый бюджетный. Скорее он просто не особо известен. А зря. С его вершин открывается потрясающий вид на зеленые долины южной части побережья и на Средиземное море, за которым просматриваются берега Африки. Часть горной системы выделена в национальный парк и имеет статус международного биосферного заповедника. Сам комплекс небольшой, но его оценят профессионалы: все местные трассы в основном красные и черные. Периодически здесь тренируются сборные Испании по горным видам спорта.

**Верхняя точка катания:** 3300 метров.

**Как добраться:** из Гранады (37 км).

**Ски-пасс:** 1 день – 52 доллара, 10 дней – 374 доллара.

**4. Закопане, Польша**

Закопане – это древний город, объединяющий в своей долине 10 горнолыжных комплексов. К сожалению, единого ски-пасса там нет, поэтому приходится выбирать лишь одну из этих карпатских баз. Если описать каждую из них в двух словах, то это дешево и слегка сердито. Но очень красиво. Трассы подойдут как для продвинутых лыжников и сноубордистов, так и для новичков.

**Верхняя точка катания:** 1985 метров.

**Как добраться:** из Кракова (110 км) или Братиславы (333 км).

**Ски-пасс:** 1 день – 23 доллара.

**5. Сольдеу – Эль-Тартер, Андорра**

Пиренеи – это всегда более дешевая альтернатива Альпам. Поэтому два курортных поселка, Сольдеу и Эль-Тартер, расположившиеся всего в 17 км от столичной Андорры-ла-Вельи, будут отличным выбором для любителей качественного, но при этом недорогого сервиса. Деревушки находятся на расстоянии 3 км друг от друга и соединены между собой системой канатных дорог, благодаря чему их можно назвать одним большим горнолыжным пространством. Курорт известен своими лыжными школами и подойдет для катания людей начального и среднего уровня.

**Верхняя точка катания:** 2358 метров.

**Как добраться:** из Андорры-ла-Вельи (17 км), из Барселоны (240 км).

**Ски-пасс:** 7 дней – 212 долларов.

ТРАГЕДИЯ

## Погиб известный предприниматель Евгений Новоселецкий



*Печальную новость сообщил председатель президиума Республиканской конфедерации предпринимательства Владимир Карягин.*

Евгений Новоселецкий входил в топ-200 известных бизнесменов по версии интернет-газеты «Ежедневник». Он являлся инвестором и создателем этнокультурного комплекса «Наносы» на территории Национального парка «Нарочанский».

*«Лось перебегал дорогу, водитель, чтобы избежать столкновения с животным, сманеврировал и выехал на встречную полосу, ударился в машину Евгения...»* – рассказал Карягин о подробностях случившегося.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

ВОТ ЭТО ДА!

## «Мы выпускаем дополнительные билеты»

*Продано 85% билетов на чемпионат мира-2019 по фигурному катанию в Минске.*



На три заключительных дня мероприятия выпускают дополнительные билеты.

– Согласно первоначальному плану, мы должны были продать все билеты на два основных уровня «Минск-Арены», вместимость которых на каждый день составляет около девяти тысяч мест, – *отмечает **Юлия Комлева**, председатель Белорусского союза конькобежцев*. – План уже выполнен по трем из пяти основных дней чемпионата. Поэтому мы выпускаем дополнительные билеты на верхний ярус арены. На среду и четверг трибуны заполнены на 70%, места на нижних уровнях еще есть. Суммарно у нас сейчас примерно на 85% от планового уровня продаж, и это очень хороший результат.

Церемония открытия чемпионата состоится 23 января. Соревнования будут проходить со среды 23 января по субботу 26 января включительно. Закроет чемпионат 27 января гала-концерт с участием призеров соревнований.

Как уже сообщала «Народная Воля», билеты на чемпионат Европы в Минске – самые доступные за последние 10 лет. Абонемент на все мероприятия чемпионата стоит от 100 до 250 рублей. Абонементы на отдельные дни (включая тренировки) – от 5 до 50 рублей.

**Вера ВИР.**

ПЕРСОНА

# Дынастычная прыма Зоя Белахвосцік

*Яе дзед Глеб Глебаў і бацька Валянцін Белахвосцік – абодва народныя артысты, служылі ў купалаўскай трупе – асобы-эпохі нацыянальнага тэатра. Можна сказаць, Зоя Белахвосцік ужо нарадзілася знакамітай. Думаеце, гэта лёгкая ноша? Гэтыя родавыя бліскаўкі маглі стаць не ўпрыгажэннем, а прыкрай мішурой у творчай біяграфіі, калі б са светлым німбам сямейнай вядомасці продкі не падарылі ёй велізарную працаздольнасць, дысцыплінаванасць і сціпласць. І, натуральна, зерне акцёрскага дару.*

З гадамі ўсё гэта сплавілася ў самабытны талент, якім Зоя Валянцінаўна, таксама актрыса Купалаўскага тэатра, хутка адмяла ўсякія сумненні ў яе праве на прафесію. Яна вельмі рана атрымала званне заслужанай артысткі. А вось наступная прыступка, званне народнай, трохі затрымалася, быццам правяраючы яе на трываласць…

**– Зоя Валянцінаўна, “Народная Воля” віншуе вас з высокім званнем народнай артысткі! Няхай гавораць, што гэта ўсё ўмоўнасці, але…**

– ...але яны ёсць у кожнай дзяржаве, толькі па-рознаму называюцца. Мне, несумненна, прыемна. Дый многія гледачы думалі, што народная я даўно, і цяпер вельмі здзівіліся гэтаму паведамленню. Прызнацца, гэты нюанс асабліва дарагі – калі афіцыйнае рашэнне ідзе ўслед за народным меркаваннем, а не наадварот.

**– Калі вы 36 гадоў таму прыйшлі ў Купалаўскі, вы былі ўпэўнены, што гэта назаўжды?**

– Вядома.

**– То бок вы такі адналюб?**

– Адналюб ва ўсім!

**– І будні вас не стамляюць? Ніколі не хацелася крута скокнуць?**

– Скокнуць можна было ў маладосці, тым больш былі ўсякія прапановы. Але калі гэтыя прапановы паступалі – напрыклад, у Польшчу з’ехаць, – у мяне якраз у тэатры адбывалася нешта добрае, ды і ў краіне справы наладжваліся. І я не разумела, навошта гэта трэба рабіць. Потым быў перыяд, калі я пра гэта пашкадавала, але толькі крыху. Наогул, пасля інстытута я зусім не спадзявалася трапіць адразу ў Купалаўскі...

**– Напэўна, з-за дзядулі і таты, знакамітых артыстаў-купалаўцаў?**

– І гэта таксама.

**– Дынастыя доўга ціснула на вас?**

– Доўга. Першыя дзесяць гадоў дакладна. Актрысе лепш пачынаць свой творчы шлях незнаёмкай. А калі за тваёй спінай такая, як у мяне, тэатральная сям’я, гэта велізарная адказнасць, вялікі цяжар. Хрыбет можа і не вытрымаць. Таму маёй дачцэ яшчэ горш. У мяне хоць тата ды дзядуля, а актрысу Валянціну Гарцуеву параўноўваюць яшчэ і “па жаночай лініі” – якая яна ў параўнанні са мной. Не ведаю, як яна ўсё гэта пераносіла спачатку. Зараз яе пазіцыі ўмацаваліся.

**– Але дачку вы не адгаворвалі ад акцёрскага лёсу?**

– Не прапаноўвала, але і не адгаворвала. Бачыла па характары, што парады ёй не патрэбны. Валянціна чалавек цвёрды: вельмі станоўчы і вельмі творчы.

**– Несумненна, у актрысы Валянціны Гарцуевай свой голас, свая акцёрская таямніца. Яе вы назвалі ў гонар свайго таты, народнага артыста Валянціна Белахвосціка?**

– Так, безумоўна.

**– Ведаю, у многіх спектаклях вы працуеце на сцэне разам з дачкой.**

– І адчуванні ад тандэму вельмі добрыя.

**– Гэта значыць мацярынскі кантроль у вас не ўключаецца?**

– Я Валю ніколі не кантралюю, ні ў прафесіі, ні ў жыцці. Хутчэй яна задавала на пачатку свайго шляху мне і бацьку творчыя пытанні. Але я вельмі асцярожна адказвала, каб не парушыць яе індывідуальнасць. Агрэсіўнае ўмяшанне можа моцна пашкодзіць маладому акцёру. У нашай прафесіі парады – небяспечная рэч і нават дрэнны тон. У нас ёсць рэжысёр, ён усё бачыць і ўсё скажа.

**– Вы часта збіраецеся ўсёй сям’ёй за сталом: вы, муж, дачка, зяць – ну бывае ж такое?**

– Рэдка.

**– Дарэчы, ваш зяць-іншаземец дзе цяпер жыве?**

– Цяпер у Мінску. Яны з Валянцінай пазнаёміліся на здымках фільма “Смерш”. Гэта было даўно, трынаццаць гадоў таму, раман развіваўся паволі. Але пасля вяселля Жан-Марк Біркхольц пераехаў з роднага Кёльна ў Беларусь. Ён гэта зрабіў дзеля Валянціны. Так, яму тут няпроста, складанасцяў вельмі шмат. Жан-Марк часта ездзіць на сваю радзіму ў Нямеччыну, ён і там задзейнічаны ў праектах. Але і ў Мінску працуе, здымаецца – іграе немцаў і амерыканцаў. Рускую мову пакуль ведае ледзь-ледзь.

**– А беларускую? Вось вы, акцёры беларускага тэатра, дома на якой мове размаўляеце?**

– Па-рознаму. У нас у сям’і свая мова. І трасянка таксама. У залежнасці ад ролі, якую цяпер ствараеш.

**– Скажыце, а хто з Паўлінак у гістарычнай рэтраспектыве вам больш за ўсё цікавы? Вы ж самі ігралі яе шмат гадоў запар. І як таленавіта, бліскуча ігралі!**



– Мабыць, гэта некарэктна – даваць ацэнку сваім калегам, тым больш што многіх я проста фізічна бачыць не магла.

**– Задам вам правакацыйныя, але шчырае пытанне: вам не здаецца, што спектакль “Паўлінка” ўжо пераjжыў свой век? Спектакль-музей... Ён, прабачце, па-мойму, састарэў.**

– Скажу цвёрда: “Паўлінка” павінна застацца ў рэпертуары Купалаўскага тэатра назаўжды. Вы паглядзіце, колькі гледачоў у зале на кожным спектаклі!

**– А дзядулю, знакамітага Глеба Глебава, вы паспелі паглядзець у “Паўлінцы”?**

– Дзядулю шмат разоў бачыла ў кіно, а на сцэне паспела запомніць у “Паўлінцы”, так бы мовіць, кадрамі, бо мне было ўсяго чатыры гады. Памятаю, як ён спрытна б’е па лыжках на стале і яны падскокваюць у паветра, а потым дакладна апускаюцца на тое ж самае месца. Вельмі ярка памятаю, як Пранцысь Пустарэвіч у выкананні Глебава ўваходзіў у хату і кідаў сваю шапку за спіну – і яна заўсёды трапляла на цвік.

**– Заўсёды-заўсёды трапляла?**

– Заўсёды! Таму што ён прыходзіў загадзя і трэніраваўся. Прычым многія гады запар.

**– Так, гэта школа старэйшага пакалення купалаўцаў.**

– Творчая дысцыпліна! Праўда, першы раз, калі я ўбачыла яго ў «Паўлінцы», я ўчыніла скандал: “Не біце майго дзядулю!” – і мяне хуценька вывелі з залы. Вядома, я не расла ў тэатры, як, напрыклад, мая дачка. Са мной бацькам было прасцей: дапамагала бабуля, была хатняя прыслужніца. А вось нашу Валянціну часам пакінуць не было з кім. Мы з мужам – на сцэне, а яе прыглядала наша служба рэквізіту: акцёрскіх дзяцей у той час у тэатры было некалькі.

**– Ваш муж Аляксандр Гарцуеў – некалі таксама артыст-купалавец, а зараз даўно галоўны рэжысёр Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Для сям’і гэта лепш, калі разам актрыса і рэжысёр, чым калі два акцёры?**

– Гэта добра па прычыне таго, што мужчыну трэба ісці наперад да вялікіх мэтаў, калі ў яго, вядома, ёсць здольнасці і маштаб асобы. Маштаб асобы Аляксандра Гарцуева дазваляў яму выйсці за рамкі акцёрства, у якіх заставацца да самага канца складана, таму што быць мужчынам-акцёрам вельмі цяжка.

**– Цяжка прыстасоўвацца і падпарадкоўвацца чужой волі?**

– Так, абсалютна дакладна.

**– І, магчыма, таму вы ў свой час пайшлі выкладаць у акадэмію – каб пашырыць сваю асабістую прастору?**

– Не. Мяне паклікалі – я пайшла. Спачатку паэксперыментаваць. Мяне запэўнівалі, што ўсё атрымаецца. Але першыя некалькі гадоў нічога не атрымлівалася, і я думала пра сябе: “Жах нейкі!” Але я такі чалавек: калі ўзялася, то праблему вывучу дасканала. Я нічога не кідаю на паўдарозе. Цяпер я дацэнт кафедры майстэрства акцёра.

**– І, можа быць, станеце прафесарам? Званне “Народны артыст” гэта дазваляе.**

– Можа быць. Калі гэта трэба акадэміі...

**– Вось падумала: а чаму артыстку Белахвосцік я ніколі не бачыла ў рэкламе?**

– Аднойчы, вельмі даўно, я рэкламавала пельмені. Але потым зразумела, што альбо твой твар ў рэкламе, альбо – у кіно і на сцэне. Кожны артыст вольны сам распараджацца, дзе будзе мільгаць яго твар. Сабе я сказала: “Больш ніколі”. Таму што ніколі.

**– Але вялікія акцёры на Захадзе за мілую душу прадаюць свой твар.**

– Калі б мне прапанавалі рэкламу ад маёй асобы – як прапаноўваюць яе акцёрам Галівуда, – я таксама пагадзілася б. А так я не магу свой твар пусціць у тыраж.

**– Якія ўражанні пакінула Нацыянальная тэатральная прэмія – падзея досыць важная ў тэатральным жыцці Беларусі?**

– Мы яе ў сваім коле амаль не абмяркоўвалі.

**– Адна актрыса (не стану называць яе прозвішча) на сваёй старонцы ў “Фэйсбуку” напісала пра яе вынікі: “Нацыянальная прэмія – гэта сон розуму...”**

– Нацыянальная тэатральная прэмія была добра прыдумана першапачаткова і прайшла так два разы. Усяго два разы. А потым яе прывялі “ў парадак” і зараз раздаюць, мне здаецца, усім сёстрам па завушніцах.

**– Напэўна, каб усе прызы не падалі ў адзін кошык.**

– Але толькі так – у адзін кошык – яно і адбываецца на самай справе ў мастацтве! Калі мы вылучаем нейкую пастаноўку як падзею года, толькі там і можа быць усё лепшае: рэжысура, сцэнаграфія, ролі. А як інакш? Але калі няма грошай на незалежнае журы ў сто чалавек – як гэта было задумана... Я хачу сказаць, што зараз прэмія як звычайны фэст. Прызы раздаваліся паводле прынцыпу “А давайце падтрымаем і гэты тэатр”. Ну, давайце... Усе згаджаюцца (хоць усе ведаюць, што спектакль недацягвае).

**– Задам банальнае пытанне: што яшчэ вы хацелі б сыграць у тэатры?**

– Нічога не хацела б.

**– Так нельга адказваць, Зоя Валянцінаўна! Вы напалохаеце чытачоў.**

– Ну праўда, у мяне ніколі не было ніякіх мар. Разумееце, для артысткі гэта шкодна. Дапусцім, я мару сыграць Джульету, а п’еса “Рамэа і Джульета” ніколі не будзе пастаўлена ў тэатры. А я гадамі вар’яцею па ёй... Вось я і кажу, што не разумею сэнсу гэтых мар!

**– Але спецыяльна “на вас” ставілі спектаклі?**

– Гэта не абвяшчалася так, мы людзі сціплыя (і гэта правільна), але «Ідылія», думаю, ставілася на мяне. І «Чайка» таксама мела на ўвазе менавіта мой удзел.

**– Наперадзе вялікае свята – стагоддзе Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Па-вашаму, што гэта за феномен – купалаўскія старыя? Яны ж засталіся ў памяці не толькі трупы, але і гледачоў, усёй краіны. Ведаю, што старэйшае пакаленне гледачоў да гэтага часу не можа змірыцца з натуральнай зменай тэатральнага пакалення.**

– У Купалаўскі заўсёды вельмі трапна набіралі артыстаў. У нас заўсёды была лепшая трупа ў краіне. І, такім чынам, атмасфера. Яна такой, увогуле, і засталася, не змянілася па сутнасці. Вельмі правільная атмасфера – няма недарэчнай субардынацыі.

**– А ў іншых тэатрах не так?**

– Ведаеце, калі мы, тры тэатры – ТЮГ, Рускі і Купалаўскі, прыходзілі на радыё запісваць спектаклі, некаторыя калегі, груба кажучы, абкладалі свой лёс і начальства, а потым пыталіся ў нас, купалаўцаў: “А ў вас што дрэннага?” А мы адказвалі: “А ў нас усё добрае”. Тым больш што ў нас сапраўды вельмі цёплыя, сямейныя адносіны ў тэатры.

**Алена МАЛОЧКА.**

СКАНДАЛ



## Дмитрий СУРСКИЙ: «Рассчитываю, что найду преемника…»

*Из Белорусского союза дизайнеров хотят исключить около сотни известных персон. В кандидатах на вылет – художник Владимир Цеслер, писатель Артур Клинов, дизайнеры одежды Елена Цоколенко и Светлана Гнеденок и другие. Все они имеют задолженность по членским взносам за три года.*

*«Просим оплатить до 14 января, в противном случае вы будете исключены из ООО «Белорусский союз дизайнеров», – говорится в информационном сообщении. За год нужно заплатить две базовые величины (51 рубль), для пенсионеров и декретниц – в два раза меньше.*

*«Народная Воля» попросила прокомментировать эту ситуацию председателя Белорусского союза дизайнеров Дмитрия Сурского.*

– Ну а что делать, если человек три года не платит взносы? – разводит руками Сурский. – Мы вправе об этом сказать. Тем более что всем о необходимости уплаты взносов напоминалось не один раз. И тут не имеет значения, Цеслер это или кто-то другой.

Конечно, нам жалко терять людей. Но, может, некоторым стало неинтересно находиться в нашем Союзе. Или обременительно быть сразу в двух творческих союзах.

Творческие союзы были придуманы много лет назад как инструмент для давления, для манипулирования творческими людьми. Сейчас они утратили смысл в такой форме. Наш союз сегодня предоставляет минимум льгот – это льгота на аренду творческой мастерской, защита от тунеядства. Но если люди работают официально, платят налоги, а так работает большинство успешных художников, у которых есть заказы, то для них членство в союзе не очень существенно. На самом деле много людей самодостаточных, которые не нуждаются ни в каких творческих организациях.

Хотя раньше быть членом творческого союза было почетно, важно, значимо. Член творческого союза мог иметь не только квартиру, но и загородный дом. А сегодня все это можно получить самостоятельно, купив за деньги. И сейчас статусность автора меряется совершенно другими критериями – индексом цитируемости в интернете, достатком, публикациями в журналах и так далее.

Наш союз сегодня находится в кризисе, и не исключено, что в скором времени он вообще может перестать существовать. То же самое говорят и в некоторых других союзах…

Мы давно предупреждали по поводу неуплаты взносов. Посмотрим, чем все закончится. Думаю, некоторых это подстегнет. Обзвонили всех еще в начале декабря, и нам только человек шесть сказали, что выходят из Союза по разным причинам – кто-то уже пенсионер, кому-то наше содружество стало неинтересно. Возможно, я не все делаю так, как нужно. Ну, а с другой стороны, у людей есть такие иждивенческие настроения – вот вы сделайте! Но это же общий союз! И мы открыты для всех. Мы имеем собственное выставочное пространство, но у нас проходит всего три-четыре выставки в год. Людям даже неинтересно выставляться!

Когда я пришел в Белорусский союз дизайнеров (это было 25 лет назад), здесь было всего 80 человек. А сегодня – около 700. И даже если сейчас 100 человек выйдут, будет 600…

Мне союз многое дал и для карьеры, и для личностного роста. Но я уже твердо решил, что это мой последний год в должности руководителя. Выборы нового руководства союза должны состояться в конце этого года. Есть много талантливой молодежи в наших рядах – надеюсь, кто-то из них возьмет на себя это бремя… Рассчитываю, что найду преемника. Ну а если нет – может, кризисный управляющий будет…

Но на самом деле не все так грустно в нашем союзе. У нас есть много планов, мы много делаем для сохранения культурного наследия белорусского плаката. Успехи есть, но и проблем немало…

**Марина КОКТЫШ.**

ЧУЛІ?

## Выйшаў «Верасень» №19

Выйшаў з друку чарговы, дзевятнаццаты па ліку, нумар літаратурна-мастацкага часопіса "Верасень".

Паэзія ў выданні прадстаўлена вершамі **Яўгеніі Паўлавец, Ганны Рудак, Кацярыны Ваданосавай, Уладзіміра Чараухіна, Насты Кудасавай.**

Раздзел "Проза" складаюць апавяданні **Вольгі Ліхадзіеўскай, Ганны Навасельцавай** і аповесць "Супадзенні" **Юрыя Несцярэнкі.**

У раздзеле "Пераклады" друкуюцца вершы маладога ўкраінскага паэта **Яраслава Скідана**.

Раздзел "Крытыка" адкрывае "балючае" эсэ **Васіля Дранько-Майсюка**, прысвечанае **Цішку Гартнаму**. Аб заснаванні першага Нацыянальнага ўніверсітэта – гутарка **Эдуарда Акуліна** з **Алегам Трусавым**. Новымі штрыхамі свайго жыцця дзеліцца **Яўген Мартыновіч**. Кранальную азбуку вёскі Лагаза прадстаўляе **Алена Масцерава**. Замалёўкі з натуры робіць у сваіх навелах **Кастусь Калючы**. Нечаканыя алюзіі з рэальным жыццём – у "сонным дзённіку" **Алены Масла**. Друкуюцца чарговыя нататкі з цыкла "Уладзевы гісторыі" **Уладзіміра Сіўчыкава.** Аб "знікненні паэтычнага мастацтва" разважае ў сваім палемічным артыкуле крытык **Эдуард Дубянецкі**. Трагічныя рысы кахання **Гальяша Леўчыка** асвятляе **Сяргей Чыгрын**. Спрабуе высвятліць "моцныя месцы" паэзіі **Міхала Бараноўскага** ў сваёй рэцэнзіі **Яна Будовіч**. Замярае "цеплыню каляровых слоў" у кнізе "Фарбы душы" **Яніны Пінчук** літаратуразнаўца **Анатоль Трафімчык**. Паэтычнае неба **Адама Глобуса** адкрывае для чытачоў часопіса ў сваёй рэцэнзіі **Алесь Бяляцкі.**

Мастацкае афармленне нумара падрыхтавалі **Дар'я Бунеева** і **Валерыя Праслава**. Ілюстрацыі – **Дар'і Раманенка**.

Пытайцеся пра "Верасень" №19 на сядзібе ТБМ (Мінск, вул.Румянцава, 13). Чытайце "Верасень" на сайце **Kamunikat.org**. Дасылайце свае творы ў "Верасень" на адрас: **verasenchas@gmail.com.**

ПРЭМ'ЕРА!

## «Мудрамер» ад Аляксандра Гарцуева




16 студзеня ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі адбудзецца прэм'ера сатырычнай камедыі «Мудрамер» па п'есе Мікалая Матукоўскага ад рэжысёра Аляксандра Гарцуева.

Распавядаючы, што вялікаму Альберту Эйнштэйну ў дзяцінстве настаўнікі ставілі двойкі і тройкі па фізіцы. Вызначыць нормы геніяльнасці, таленавітасці або разумовай абмежаванасці бывае не пад сілу нават дасведчанаму псіхолагу. А выназоднік-самавучка Мурашка прыдумляе апарат, які вызначае ступень чалавечай мудрасці. У спробах запусціць мудрамер у серыйную вытворчасць вынаходца звяртаецца ў канчатковую інстанцыю – Міністэрства ўзгаднення. З гэтага ўсё і пачынаецца...

Ці атрымае ён дазвол на вытворчасць? Ці аддзячаць людзі за гэтакі падарунак?

Адказы на гэтыя пытанні – у спектаклі «Мудрамер».

У ролях – зоркі тэатра: заслужаны артыст Беларусі **Валянцін Салаўёў**; народная артыстка Беларусі **Таццяна Мархель**; заслужаная артыстка **Людміла Сідаркевіч**, акцёры **Алена Баярава; Максім Панімачанка, Уладзіслаў Ноздры**н і іншыя.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ПАМЯЦЬ

*Улетку 1984 года школьны настаўнік Пятро Мікалаевіч Марціноўскі прывёз мяне ў Мінск паступаць у БДУ і адразу ж пазнаёміў з земляком – філосафам і гісторыкам Міхаілам Іоськам. Я ўпершыню апынуўся ў сталічнай кватэры, якая ўражвала і светлай прасторнасцю, і багатай бібліятэкай, і зычлівасцю гаспадара. "Я родам з-пад самай Зэльвы, з вёскі Барадзічы, чулі пра такую?" – пацікавіўся ён. Дзіва што чуў! З тае вёскі была родам мая мама, і я там праводзіў усе летнія канікулы. Карацей, мы лёгка паразумеліся, і неўзабаве я ўжо гартаў падпісаную шаноўным цёзкам кнігу "Мікалай Судзілоўскі-Русель" – пра знакамітага беларускага лекара, доктара медыцыны, які стаў прэзідэнтам Гавайскай рэспублікі.*

*На жаль, гэта была адзіная наша сустрэча: праз год мяне забралі ў войска, а яшчэ праз год Міхаіла Іванавіча не стала… Як жа я быў рады, калі месяц таму даведаўся, што ягоная ўдава Аляксандра Сяргееўна Шаўлюкевіч (як потым высветлілася, сталая чытачка "Народнай Волі") адшукала ў сямейным архіве ўспаміны М.І.Іоські і прапанавала мне з імі пазнаёміцца. Напісаныя на пачатку 1980-х, яны ўтрымліваюць мноства цікавых фактаў пра побыт міжваеннай беларускай вёскі, пра жыццё нашых суайчыннікаў пад нямецкай акупацыяй, пра мінскі інтэлектуальны асяродак брэжнеўскіх часоў...*

*Спадзяюся, успаміны выйдуць у свет асобнай кнігай, а пакуль прапануем чытачам урывак – пра зэльвенскага настаўніка Аляксандра Голуба (1918–1986), які ў самых неспрыяльных умовах дбаў пра нацыянальную школу.*

*Міхась СКОБЛА.*



Міхаіл ІОСЬКА

# Беларуская школа ў Райху

## *Як настаўнік Аляксандр Голуб вучыў дзяцей пад акупацыяй*

Прыгадваючы сваё школьнае юнацтва ў вёсцы Барадзічы пад Зэльвай, хачу расказаць пра Аляксандра Міхайлавіча Голуба. Настаўнікам ён пачаў працаваць у перыяд нямецкай акупацыі. І вось гэты факт, на жаль, прынёс яму нямала непрыемнасцяў. Пачнуць пра яго дзе-небудзь гаварыць як пра добрага педагога, і раптам хтонебудзь абавязкова ўставіць: "Але ён жа настаўнічаў пры немцах..."

І гэта пры тым, што афіцыйнымі органамі Аляксандр Міхайлавіч ніколі ні ў чым не абвінавачваўся. Яму не прад'яўлялі ніякіх прэтэнзій. І ўсё ж тое "але" працягвала гучаць на педагагічных нарадах, з вуснаў калег і раённых начальнікаў.

Нельга сказаць, што Голуба не баранілі, не зняпраўджвалі тыя незаслужаныя папрокі. Неадноўчы і мне даводзілася быць сведкам падобных сцэн. Але, як гаворыцца, на чужыя вусны не накінеш хусты. Верагодна, жывучасці таго "але" спрыяла і прыродная сціпласць Аляксандра Міхайлавіча. Сціпласць сама па сабе безабаронная.

Праўда, у Барадзічах, дзе і адбываліся памятныя для мяне падзеі, ніхто ніколі не сумняваўся ў прыстойнасці, сумленнасці і высокай грамадзянскай адказнасці А.М.Голуба. Калі вяскоўцы пры сустрэчы кланяліся яму ніжэй, чым любому другому настаўніку, то тлумачэнне гэтаму трэба шукаць у падзеях саракагадовай даўніны.

Вядома, што ў перыяд акупацыі Беларусь была падзелена на тры часткі. Адна з іх была далучана да Германіі. Дык вось, кажучы юрыдычнай мовай, у 1942–1943 гадах у нямецкім Райху працавала беларуская школа. Яе стварыў у вёсцы Барадзічы Аляксандр Міхайлавіч Голуб.

Ён не быў звязаны ні з падполлем, ні з партызанамі і не атрымліваў ні ад кога заданняў. Малады, амаль без жыццёвага досведу, ён, аднак, глядзеў далей за многіх. Інтэлігентнага (у вышэйшым і найлепшым значэнні гэтага слова) чалавека, Голуба насцярожыла тое, што ці не ўся вясковая моладзь цягам адной зімы 1941 года падалася ў падмайстрыпамочнікі да краўцоў, сталяроў, гандляроў і г.д.

І Аляксандр Міхайлавіч пайшоў па хатах агітаваць дзяцей вучыцца. Са сваімі парадамі і думкамі, са сваімі планамі ён выглядаў вясковым Дон-Кіхотам.

– Вучыцца? А навошта? Дзеля чаго? А хто будзе араць і сеяць?

– А хіба фашыстам патрэбны адукаваныя рабы?

Аляксандра Міхайлавіча не спынілі падобныя пытанні, адмовы, насмешкі. Высокі, худы, ён не толькі знешне нагадваў рыцара з Ламанчы. Ён ім быў па сваёй сутнасці – ішоў наперад, нягледзячы на перашкоды, стараўся дапамагчы ўсім, хто меў патрэбу ў дапамозе. Ён ішоў наперад, бо нехта ж павінен ісці першым, нават сабе на гора, бо інакш жыццё спыніцца. Паболей было б у свеце донкіхотаў!

Спачатку ў яго было толькі трое вучняў. Настаўнік даваў урокі ў сябе дома. Платныя ўрокі. Праўда, плата была чыста сімвалічная – 5 марак за месяц. Яна патрабавалася хутчэй як маскіроўка.

Калі маці адпусціла мяне вучыцца (да гэтага я цэлую зіму спрабаваў шыць боты), Аляксандр Міхайлавіч ужо праводзіў заняткі па хатах у вучняў. Але ў 1942 годзе гаспадар Мароз аддаў у наша распараджэнне (не ведаю, на якіх умовах) клас у будынку былой польскай школы. А неўзабаве з дапамогай бацькоў мы адрамантавалі занядбаную хату паблізу чыгуначнай станцыі. Памяшканне, ацяплілі яе пачаргова сваімі дровамі. Замест шыбаў паставілі ў вокны фанеру. І ўсё ж гэта была школа! Свая школа! У ёй мы былі вучнямі і гаспадарамі.

Веру, што мясцовыя краязнаўцы зацікавяцца гэтай старонкай гісторыі свайго раёна. Я ж бяру на сябе смеласць паўтарыць, што дзейнасць Барадзіцкай школы ў 1942–1943 гадах – цікавая і каштоўная старонка гісторыі Зэльвеншчыны.

Што нам даваў настаўнік, апрача асветы? Любоў да Радзімы, да свабоды. Мы вывучалі ўсе неабходныя па школьнай праграме прадметы, прычым па ранейшых (савецкіх) падручніках на беларускай мове. Кожны раз, калі ў вёску прыязджалі немцы, мы па сігнале трывогі збіралі свае падручнікі і хавалі ў бяспечным месцы. Такое здаралася часта, часам ледзьве паспявалі да прыходу няпрошаных гасцей. Аднойчы прыйшлося нават развітацца з цэлым стосам падручнікаў.

Лёнік Лойка схаваў іх у суседнім са школай двары. Кнігі знайшла гаспадыня і, баючыся, што яны трапяцца на вочы немцам, выкінула іх у надрэчны чарот. Знайшлі мы свае падручнікі толькі праз тыдзень. Уратаваць іх не ўдалося.

Над намі заўсёды вісеў страх. Самае цікавае, што Аляксандр Міхайлавіч не быў настаўнікам і да Барадзіцкай школы зусім не меў досведу педагагічнай працы. Ён рос разам з намі. У ім было нешта ад народнага настаўніка: шырыня светагляду, сапраўдная энцыклапедычнасць, любоў да класічнай літаратуры, павага да народнай мудрасці, традыцый, патрабавальнасць да сябе і вучняў.

Адкуль гэта было ў яго? Не ведаю. Як не ведаю і таго, якім чынам Аляксандру Міхайлавічу ў 1943 годзе ўдалося атрымаць ад акупацыйнай улады права на афіцыйнае існаванне нашай школы (яна занадта разраслася, каб заставацца непрыкметнай). Увогуле, мы, дзеці, многага не ведалі і не павінны былі ведаць.

У Аляксандра Міхайлавіча Голуба была вялікая, як для таго часу, бібліятэка, якой карысталіся ўсе вучні. Нават абавязаны былі карыстацца. Настаўнік адкрыў для нас выдатных беларускіх паэтаў, рускую і замежную класіку. Менавіта тады я ўпершыню трапіў у свет творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, Льва Талстога і Аляксандра Блока, Фенімора Купера і Генрыка Сянкевіча, Тараса Шаўчэнкі і Адама Міцкевіча. Паэмы Коласа "Новая зямля" і "Сымон-музыка", падрабязна і глыбока разбіраныя на ўроках, я ведаў на памяць! А краявіды і апісанні прыроды з тых паэм запомніліся настолькі дакладна, што калі праз дзесяцігоддзі я трапіў на Стаўбцоўшчыну, то пазнаваў іх, быццам сам жыў там і хадзіў разам з дзядзькам Якубам.

Мала таго, А.М.Голуб праз школу ўплываў на нашых бацькоў. Па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам настаўніка мы ў 1942 годзе падрыхтавалі для іх першы канцэрт. У той вечар з самадзейнай сцэны гучалі купалаўскія "А хто там ідзе?" і "Мужык", коласаўскі "Мой родны кут". Памятаю, паставілі мы і драматычны абразок па паэме "Бандароўна".

Хутка нашы канцэрты сталі грамадскай патрэбай для ўсёй вёскі. Відаць, яны выконвалі не толькі забаўляльную ролю, давалі людзям нешта яшчэ, вельмі для іх важнае.

Кожны раз, праходзячы па сталічнай плошчы Якуба Коласа міма бронзавых фігур Сымона-музыкі і яго сяброўкі, я прыгадваю Надзю Конік. Нашу маленькую актрысу, якой былі пад сілу і камедыйныя, і драматычныя ролі. Яна "выцягнула" і Паўлінку. Так-так! Аляксандр Міхайлавіч змог з намі паставіць і купалаўскую "Паўлінку" з яе жывым народным гумарам і глыбокім ідэйным зместам.

Прыгадваю і Лёніка Лойку – прыроджанага коміка, без якога не абыходзіўся ніводзін канцэрт. А як кружыліся ў віхуры народнага танца Ніна і Лена Лойкі, Іра Іоська і Жэня Дубовы!

Напэўна, тыя канцэрты бачацца мне ў прыхарошаным выглядзе. Мы ж не былі прафесійнымі акцёрамі, нам было толькі па 10–15 гадоў. Але, за гэта ручаюся, мы ўпэўнена звярталіся да пачуццяў і памкненняў дарослых, гаварылі ва ўнісон з іх растрывожанымі душамі. Упэўнены таксама, што нашы даволі частыя выступленні, у якія Аляксандр Міхайлавіч укладваў душу і сэрца, дапамагалі людзям захоўваць вернасць сваім жыццёвым прынцыпам і Бацькаўшчыне.

Наш настаўнік быў і рэжысёрам, і пастаноўшчыкам, і харэографам, і кіраўніком хору, і аўтарам інсцэніровак, сам напісаў дзве п'есы, пастаўленыя на школьнай сцэне. У іх расказвалася, як беларусы выстаялі ў барацьбе са стыхіямі. Алегорыя была даволі празрыстай.

Думаецца, Аляксандр Міхайлавіч мог з гонарам успамінаць той час – гады актыўнай і напружанай творчасці, высакароднага служэння свайму народу. І гэта – ходзячы над прорвай, куды можна было звaліцца ў любы момант. Ён заслужыў і памяць, і ўдзячнасць народную. А гэта многа, вельмі многа для не генія, не барацьбіта-героя, а для звычайнага чалавека. Дай Бог кожнаму настаўніку пакінуць такі глыбокі след у сэрцах стольких людзей.

Варта сказаць, што наш настаўнік ніколі не афішаваў сваёй дзейнасці. А я расцэньваю яе як подзвіг, адзначаны не медалём ці ордэнам, а толькі беспадстаўным падазрэннем. І пасля перамогі Аляксандр Міхайлавіч застаўся настаўнікам, працаваў у Зэльвенскай СШ. Калі б не цяжкая зацяжная хвароба, калі б не тое насцярожанае "але"...

Зборы нас Аляксандр Міхайлавіч хоць сёння разам у той старэнькай, урослай у зямлю прыстанцыйнай хаце з яе маленькімі пакойчыкамі, застаўленымі кніжнымі шафамі, і кожны з нас пачаў бы свой аповед аб пражытым аднолькава – са слоў: "Я абавязаны(а) Вам..."

Ці патрэбна большая падзяка? Добры настаўнік працягвае жыць у сваіх вучнях.

**На фота: Міхаіл Іоська. 1975 год.**

РЭЙТЫНГ

## Беларусь трапіла ў дзясятку самых неспагадлівых краін

***Амерыканскі Інстытут Гэлапа апублікаваў даклад "Самыя спагадлівыя краіны свету 2018". Вынікі даследавання, падчас якога апыталі 150 тысяч чалавек з 146 краін, пераказвае ВВС.***

З апытання вынікае, што з 7,6 мільярда чалавек на зямлі каля 2,2 мільярда калі-небудзь дапамагалі незнаёмым, 1,4 мільярда давалі грошы на дабрачыннасць, 1 мільярд чалавек працавалі валанцёрамі.

Найбольш дапамагалі незнаёмцам (або казалі, што дапамагалі) у Лівіі, паведамляе svaboda.org. Там пра гэта заявілі 83% апытаных. Далей Ірак (81%), Кувейт, Ліберыя і Сьера-Леоне (па 80%). У дзясятку самых спагадлівых трапілі таксама Злучаныя Штаты Амерыкі: там пра дапамогу незнаёмцам заявілі 72%.

Беларусь адкрывае дзясятку самых неспагадлівых краін: толькі 31% апытаных заявілі, што некалі дапамагалі незнаёмым. Прыблізна столькі ж у Кітаі і Індыі (31%), а таксама Македоніі (30%). Наступныя – Латвія (28%), Чэхія (26%), Харватыя (25%), Японія (23%), Лаос (22%) і Камбоджа (18%).

### Чаму так?

Прафесар факультэта псіхалогіі брытанскага Універсітэта Эсекса Пітэр Сміт растлумачыў ВВС такія вынікі. На адказ уплывае шэраг фактараў: дабрабыт, давер, розніца ў даходах, успрыманне карупцыі, страх, асноўная рэлігія або сацыяльная этыка.

Нізкія паказчыкі краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы тлумачаць таксама спадчынай камуністычных рэжымаў, якія стрымлівалі дабрачыннасць. Але, напрыклад, у Кітаі ў 2016 годзе спрасцілі працэс збору грошай на дабрачыннасць, і пакаэчык грамадзянскай адказнасці пачаў расці.

Па суме балаў "уцягнутасці ў грамадскае жыццё" беларусы стаяць вышэй за Літву і Латвію.

У даследаванні былі і іншыя пытанні. Паводле сумарнага рэйтынгу беларусы не трапілі ў дзясяткі найбольш і найменш уцягнутых у грамадскае жыццё. Самыя ўцягнутыя па суме адказаў – Інданезія, Аўстралія, Новая Зеландыя і ЗША.

Самыя неўцягнутыя – Азербайджан, Камбоджа, Кітай, Грэцыя і Емен, а таксама Палесцінская аўтаномія. На 7-м і 8-м месцы з канца – Літва і Латвія з аднолькавымі сумарнымі баламі.

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

Лариса ГРИБАЛЕВА:

## «Цените друг друга сейчас!»

*Певица, многодетная мама и бизнес-леди Лариса Грибалева тепло поздравила подписчиков своего Инстаграма с Рождеством.*



Она разместила красивый снимок своей семьи и подписала его так: *«Умейте друг друга беречь... Иначе потом будет поздно... Цените мгновения встреч... И солнце, и небо, и звезды... Умейте любимых прощать... Старайтесь друзей не обидеть... Почаще родных навещать... Побольше хорошего видеть... Ведь жизнь нам даётся лишь раз... О том догадаться несложно... Цените друг друга сейчас!..»*

**Вера ВИР.**

ЛЕПШЫ!

## Мікалай КАЗЕКА: «Сваіх дзяцей трэніраваць складана»

*Настаўнік зборнай Беларусі па фрыстайле прызнаны ў мінулым годзе лепшым трэнерам краіны.*

Зімовая Алімпіяда-2018 яшчэ раз пацвердзіла, што ў беларускіх фрыстайлістаў – суперпрафесійны трэнер. Мікалай Казека трэніруе нацыянальную каманду з 1992 года, спартсмены пад яго кіраўніцтвам заваёўвалі медалі на шасці Алімпіядах запар!

У мінулым годзе, здаецца, ніхто не верыў, што Ганна Гуськова выйграе алімпійскае золата, але ж гэта здарылася. Таму прызнанне і званне "Лепшы трэнер Беларусі" – абсалютна справядлівыя.

Дарэчы, Мікалай Іванавіч заўсёды кажа, што для яго спартсмены як дзеці, а вось родны сын не пайшоў трэніравацца да бацькі.

*"Заўсёды разумеў, што трэніраваць сваіх дзяцей вельмі складана,* – распавёў ён sportpanorama.by. – *Сын Сашка заўсёды быў таленавітым хлопцам. Ён і на батуце скакаў класна, і на горных лыжах з ранняга дзяцінства катаўся, і дошку сам асвоіў. Але яго куды больш вабіў камп'ютар. Дзякуючы сыну я яшчэ з канца 1980-х гадоў, напэўна, адным з першых трэнераў у краіне ўсе вынікі пачаў апрацоўваць на камп'ютары. Праўда, зараз ужо крыху адстаю, у сацыяльных сетках рэдка з'яўляюся. Але мне ўсё роўна цікава аналізаваць сваю працу з дапамогай спецыяльных праграм, параўноўваць іх заключэнні з уласнымі высновамі".*

Са слоў Мікалая Казекі, не выключана, што ўнук будзе займацца фрыстайлам.

*"Мішу яшчэ пакуль толькі тры з паловай гады, але гэта такі агонь!* – кажа трэнер. – *Гіперактыўнае дзіця. Ён ужо і на батуце скакаў, і ў гімнастычным клубе "Маўглі" займаўся".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

(Фота TUT.by)



АСОБА

## Ці закончылася чорная паласа ў жыцці Андрэя Краўчанкі?

*Сярэбраны прызёр Гульняў-2008 у дзесяцібор'і адзначыў сваё 33-годдзе і аднавіў трэніроўкі.*



4 студзеня Андрэй Краўчанка прымаў віншаванні з нагоды чарговага дня нараджэння, хаця правёў яго, як звычайна, у спартыўнай зале. Ужо некалькі месяцаў прызёр Алімпіяды і двухразовы чэмпіён Еўропы трэніруецца, што можна назваць невялікім подзвігам. Не ўсе верылі, што чалавек пасля шасці аперацый на ахілавым сухажыллі вырашыць вярнуцца ў вялікі спорт.

*"Пра планы казаць рана, пакуль што проста трэніруюся",* – коратка кажа пра свае далейшыя перспектывы Андрэй.

Нагадаем, што з-за сур'ёзных траўмаў лёгкаатлет прапусціў дзве Алімпіяды запар – 2012-га і 2016 гадоў. Перанёс некалькі аперацый, прайшоў доўгую рэабілітацыю…

*"Даводзілася неверагодна складана, нікому такога не пажадаў бы",* – прызнаецца сёння Андрэй. Хаця некалькі гадоў таму яго заявы былі больш аптымістычнымі.

*"Пасля аперацыі ўсё добра,* – распавядаў дзесяціборац bfla.eu. – *І я сам адчуваю, што зараз зусім іншая справа. Ужо знялі гіпс, стапой магу круціць. Настрой, шчыра кажучы, добры. Я вельмі сумую па сваёй рабоце і ўжо хацеў бы ўключыцца ў яе. Натуральна, вызначыў для сябе і галоўны старт – Алімпійскія гульні-2020 у Токіа".*

Добра выказваўся Андрэй і пра свайго трэнера Івана Гардзеенку:

*"Іван Пятровіч для мяне – як другі бацька. Ён мяне з самага дзяцінства выхоўваў. Так, у нас былі моманты, калі адзін аднаго не разумелі. Але ведаеце, што мне больш за ўсё падабаецца ў трэнеры? Ён ніколі не цісне. Вельмі добры псіхолаг. Ведае і бачыць, калі нешта раблю не так, але ніколі не скажа адкрыта пра гэта і заўжды падтрымае. Гэта, безумоўна, вялікі плюс. І ў дадатак хачу сказаць, што ў Івана Пятровіча інтуіцыя – ад Бога. Заўсёды адчувае аб'ёмы работы – залаты баланс. Быў момант, калі я быў яшчэ малады і многага не разумеў, але ж з гадамі прыходзіць і вопыт. Трэнер побач са мной, у нас усё будзе нармальна. Я хачу выйсці на высокі ўзровень і паказаць будучаму пакаленню, што раней часу нельга сыходзіць. Трэба змагацца да апошняга. Не хачу дрэнна казаць пра нашых урачоў, але, калі яны раілі мне шукаць сабе новае месца працы, мяркую, такі падыход няправільны. Нельга забіваць мару. Адчуваю, што мой росквіт будзе пасля 30 гадоў".*

– З Андрэем Краўчанкам я больш не працую, – распавёў "Народнай Волі" цяпер ужо былы трэнер спартсмена **Іван ГАРДЗЕЕНКА**. – Таму ён пераехаў на пастаяннае месца жыхарства ў Мінск, дзе зараз і трэніруецца, а я застаўся ў Гомелі. Наколькі мне вядома, у Андрэя з трэніровачным працэсам усё нармальна, ён тэхнічна адукаваны чалавек. Калі здароўе дазволіць, усё атрымаецца.

**– Ён жа яшчэ год таму, здаецца, вырашыў праблемы са здароўем…**

– Так, і працаваў вельмі добра. Але рана пачаў фарсіраваць падзеі, і вясной мінулага года пашкодзіў на зборах другую нагу – адбіў пятку. Адным словам, вярнуўся туды, адкуль прыйшоў. Мы развіталіся ў тым ліку і з-за гэтага.

**– Якія, на ваш погляд, шанцы, што Андрэй Краўчанка вернецца ў спорт?**

– Вельмі высокія, бо характар у Андрэя байцоўскі. Сёння, акрамя француза Кевіна Маера, у дзесяцібор'і прыкладна ўсе сапернікі роўныя, і такі момант трэба выкарыстоўваць.

**– 33 гады для дзесяцібор'я – гэта ўзрост?**

– Гэта росквіт для спартсмена ў плане вопыту. Дазволіць здароўе – будзе і вынік. Калі Андрэй вырашыць рыхтавацца да Алімпіяды, я не супраць яму дапамагчы…

**Алесь СІВЫ.**

КРЫЖАВАНКА

## Студзеньскія напевы



**Па гарызанталі:** 1.Студзень мяце – … залье (прык.). 4.Сяброўскія адносіны. 7."Тут з'явіўся … Мароз//І адразу – цап за нос" – з верша П.Саковіча "… Мароз". 10."На Новы год пасвяткаваць//У … завітала ёлка" – з верша М.Танка "Ёлка". 11.Зіма – свякруха, лета – … (прык.). 13.Хуткая змена колераў, пераліўы святла. 14.Завіруха. 16."І вясёлыя дзеці на ганку,//І на белым кусце – снегіры.//І канькі, і нястомныя …" – з верша Т.Дзям'янавай "Не надыхацца, не наталіцца". 17.Сустрэча. 20.Тое, што і дзіва (разм.). 22."Мароз як пацалуе ў …,//Ажно ўсяго кідае ў жар" – з верша П.Броўкі "Зімовае". 23."У бары пад Новы год//Звяры ладзяць карагод.//Глянь, паўсталі цесна ў …//Лань, вавёрка і вяпрук" – з верша В. Верабей "Карагод". 24."Ціха, як на бязлюднай планеце.//… без разбору//Лезе да ўсіх цалавацца" – з верша М.Скоблы "Вечар перад Калядамі". 25.Зімой … качаюцца – чакай мяцеліцы (прыкм.).

**Па вертыкалі:** 1."Ой, ладачкі-…,//Надышлі "Калядкі" – з верша А.Вольскага "Калядкі". 2."Будзе Дзед Мароз з Снягуркай//… раздаваць,// Будзем мы ўсім карагодам// Весяліцца, танцаваць" – з верша Г.Дземідовіча "Новы год". 3.Смачны кандытарскі выраб з салодкай арэхавай масы. 5."… за годам – карагодам,//І ўжо сёння з Новым годам!//Я сардэчна ад душы//Вас віншую, малышы!" – з верша К.Крапівы "З Новым годам". 6. … стаўбом – да марознага надвор'я (прыкм.). 8.Літаратурны твор. 9.Пасудзіна, у якой таўкуць. 12."…-ёлка,//Ярка загарыся!" – з верша Ул.Мазго "...-ёлка". 15.Печаны выраб; гаспадыня выпякала яго на Каляды, каб пачаставаць калядоўшчыкаў. 16.Коннік, верхавы. 18.Гушкалка, калыханка. 19."Палазам не працерці//шлях стары да сяла.// Гурбы снегу і ў сэрцы//мне … намяла" – з верша Л.Геніюш "Завея". 21. "…!" – вокліч з пераможнай інтанацыяй. 22.Спосаб вышыўкі, шыцця.

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Ліпень. 4.Згода. 7.Дзед. 10.Горад. 11.Матачка. 13.Ігра. 14.Пурга. 16.Санкі. 17.Яўка. 20.Дзівота. 22.Шчокі. 23.Круг. 24.Мароз. 25.Сабакі.

**Па вертыкалі:** 1.Ладкі. 2.Падарункі. 3.Нуга. 5.Год. 6.Дым. 8.Драма. 9.Ступа. 12.Чараўніца. 15.Пірог. 16.Сядок. 18.Арэлі. 19.Зіма. 21."Ага!". 22.Шво.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**
**г.Дзяржынск.**

КАЛЕКЦЫЯ

# АБ ЧЫМ МОГУЦЬ РАСПАВЕСЦІ КАЛЯДНЫЯ ПАШТОЎКІ

У аддзеле мастацтваў Гродзенскай абласной бібліятэкі дзейнічае рэтравыстава калядных і навагодніх паштовак, цацак і ўпрыгажэнняў на ёлку, падарункаў, на якой прадстаўлены больш за 700 экспанатаў. Амаль усе яны з прыватных калекцый.

Выстава не дае адказу на пытанне, калі ў Гродне была пастаўлена першая навагодняя ёлка, але тое, як віншавалі з каляднымі, а пазней і навагоднімі святамі гродзенцы і гродзенцаў, можна вельмі дакладна адсачыць па паштоўках.

### Захад нам дапаможа

Па выставе мяне праводзіць адна з гродзенскіх калекцыянерак – Ларыса Ліс *(на здымку)*. Яна бярэ са стэнда некалькі калядных паштовак пачатку XX стагоддзя. Надпісы на іх не толькі па-руску, але і па-нямецку, па-французску.

– *У царскай Расіі не выпускалі паштовак на Каляды альбо Новы год,* – распавядае спадарыня Ларыса. – *Іх закуплялі оптам у заходніх краінах і там, дзе было вольнае месца, наносілі надпіс на рускай мове. Вось як тут: «С Рождеством!». Звярніце ўвагу, якая вялікая колькасць самых розных паштовак тады ўжо існавала ў Еўропе.*

### Сямейныя каштоўнасці

А вось у 1920–1930-я гады мінулага стагоддзя сітуацыя з паштоўкамі была іншай. На стэндзе мноства каляровых картак з віншаваннямі на Каляды і Новы год, але ўжо з надпісамі толькі папольску. На большасці з іх не традыцыйныя навагоднія малюнкі, а здымкі маладых прыгожых людзей альбо дзетак з падарункамі. Такія фотапаштоўкі ў той час набылі найбольшае распаўсюджанне ў Гродне.

– *Я так думаю, што ў той час не ставала мастакоў, якія маглі б афармляць паштоўкі, а таму рабілі здымкі, якія падкрэслівалі агульначалавечыя каштоўнасці: сям'я, дабрабыт, шчаслівыя дзеткі з падарункамі і маладыя пары,* – разважае спадарыня Ліс. – *Калі паглядзець, то большасць гэтых фотапаштовак выпускалі ў Гродне. Тут ужо было шмат фатографаў, якія хутка развівалі гэтую справу. І, дарэчы, віншуючы сваіх блізкіх з Калядамі і Новым годам, чалавек адразу дасылаў ім памяць пра сваю сям'ю. Цудоўная была традыцыя!*

Ва Усходняй Беларусі, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, пасля 1927 года пачалася антырэлігійная кампанія, святкаваць Каляды забаранілі. Новы год таксама не быў святам, хаця людзі адзначалі яго ў сямейным коле.

– *І толькі праз 10 гадоў дэкрэтам Савета Народных Камісараў было афіцыйна дазволена адзначаць Новы год, і гэты дзень быў аб'яўлены святочным,* – распавядае Ларыса. – *Першую навагоднюю ёлку адкрылі ў Маскве ў 1937 годзе. Але ў Гродна ніякіх паштовак з СССР не трапляла.*



Калядныя і навагоднія фотапаштоўкі 1920–1930-х гадоў, якія выраблялiся ў Гродне.

Яшчэ адна адметнасць калекцыі таго часу – шмат паштовак з еўрапейскіх краін і з ЗША.

– *Многія нашы людзі ехалі тады на Захад на заробкі. Але блізкіх і родных ніхто не забываў. Усіх з чужыны цягнула на Каляды ў бацькоўскую хату, да сваёй сям'і. Нашы людзі памяталі традыцыі, куды б іх ні заносіў лёс.*

### «Марусечка, дачакайся свайго татачку...»



Спадарыня Ларыса паказвае мне некалькі паштовак, атрыманых гродзенцамі падчас Другой сусветнай вайны. Людзі сядзяць побач з ёлачкай за святочным сталом і дасылаюць свае віншаванні сяброўцы. Жадаюць ёй здароўя і кахання. Дата – 1941 год.

Адна паштоўка з 1943 года – віншаванне з Калядамі панямецку, яна даслана ў Гродна з Германіі чалавекам, які быў вывезены туды на працу. У яго была магчымасць павіншаваць сваіх родных.

Яшчэ адна калядная паштоўка датуецца 1945 годам, за месяц да заканчэння вайны. Каляды ўжо даўно мінулі, а бацька на гэтай паштоўцы піша сваёй дачцэ адзін радок: «Марусечка, дачакайся свайго татачку...»

### Дзед Мароз на ракеце

На пачатку 1950-х гадоў з'явіліся першыя беларускія паштоўкі да Новага года. Праўда, з надпісам па-беларуску іх выходзілі адзінкі. Віншаванні савецкім людзям ад Брэста да Курыл павінны былі гучаць «на великом и могучем». У гэты час, распавядае Ларыса Ліс, з паштовак наогул знікаюць віншаванні з Калядамі.

– *Адметнасцю гэтых паштовак было яшчэ і тое, што яны друкаваліся на паперы вельмі дрэннай якасці. Хутка жаўцелі, колеры бляклі, а папера рабілася мяккай,* – Ларыса паказвае адпаведныя экспанаты. – *Напрыклад, нямецкія паштоўкі пачатку XX стагоддзя зроблены былі больш якасна.*

У калекцыі гродзенскай калекцыянеркі большасць паштовак 1960–1970-х гадоў – яе дзяцінства. Яна заўважае, што навагоднія паштоўкі таго часу былі самыя палітызаваныя.

– *Ну вось пачатак 60-х: Дзед Мароз едзе ўжо не на тройцы коней – сані цягнуць спадарожнікі Зямлі. Пасля палёту Гагарына кожная другая навагодняя паштоўка была прысвечана космасу. Падчас кіравання Хрушчова на паштоўках не знойдзеш келіха з шампанскім, паколькі ў краіне яшчэ пэўны час быў сухі закон. А вось з прыходам да ўлады Брэжнева на картках з'явіліся бутэлькі і келіхі. Ніякія сямейныя каштоўнасці, на жаль, не прапагандаваліся.*

### Гонар калекцыянера

Спадарыня Ларыса паказвае набор калядных і навагодніх паштовак пачатку 1990-х гадоў. Яны аддрукаваны на добрай паперы, з цікавымі, дасціпнымі, своеасаблівымі надпісамі. Усе віншаванні ў іх напісаны на беларускай мове.

– *Вось гэта першыя беларускія калядныя паштоўкі, якія трапілі ў масавы продаж,* – з гордасцю кажа мая суразмоўца. – *Іх прыемна дасылаць за мяжу, пра іх часта пытаюцца калекцыянеры з іншых краін. Яны па-сапраўднаму аўтэнтычныя, зроблены з густам, маюць адмысловыя подпісы і насамрэч адлюстроўваюць культурную традыцыю нашага народа. На жаль, гэта традыцыя зноў перарвана, бо зараз большасць паштовак, што ў нас прадаюцца, рускамоўныя.*

### Губляецца традыцыя

Аказваецца, па, здавалася б, звычайных паштоўках, якія існуюць у Гродне трохі больш за 100 гадоў, можна шмат чаго даведацца пра гісторыю людзей, горада, краіны.

Асаблівую каштоўнасць, тлумачыць мне знаўца, мае адваротны бок паштоўкі, на якім захоўваюцца напісаныя ад рукі пажаданні.

– *На пачатку XX стагоддзя, віншуючы з Калядамі, людзі пераважна жадалі адзін аднаму дабрабыту і вясёлых святаў. У савецкія 1950–1980-я звычайна на паштоўках пісалі: поспехаў у працы, здароўя і міру ва ўсім свеце. На беларускіх паштоўках пачатку 1990-х часцей пачалі сустракацца пажаданні таго, чаго не хапае: грошай, кватэры, іншага падобнага…*

А яшчэ, распавяла Ларыса, на пачатку XX стагоддзя чалавек мог проста напісаць на паштоўцы: «Вы памятаеце мяне? Я Аляксей з Ліды. Мы пазнаёміліся з вамі на вакзале ў Вільні і мелі прыемную гутарку. Віншую вас з Калядамі і Новым годам!» Такія пасланні цяпер звычайныя ў інтэрнэце, але на паштоўках іх цяжка нават уявіць.

Праўда, з жалем зазначае калекцыянерка, традыцыя пасылаць паштоўкі з часам губляецца.

– *Зараз моладзь праз інтэрнэт дасылае смайлікі хоць на Каляды, хоць на Новы год. А каб выбраць цікавую паштоўку і даслаць яе ў іншы горад альбо краіну – такое, на жаль, становіцца рэдкасцю,* – заўважае Ларыса. – *На мой погляд, людзі ад гэтага шмат губляюць: яны не выкарыстоўваюць магчымасці пакінуць памяць аб сабе сваім нашчадкам.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 08.01.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 025 экз. Заказ № 90.


9 772071 964000 19002